КАСТРЫЧНІК, 2011

ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Крык аб дапамозе да сусветнай супольнасці для Дашкевіча СТАР. 3

Гомель: Ініцыятараў "Народнага сходу" арыштоўваюць СТАР. 4

# Алеся Бяляцкага вылучаюць на Нобелеўскую прэмію



фота Сяргея Балая

***Утвораны адмысловы міжнародны камітэт па вылучэнні віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, сябра ГА «БАЖ» Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру за заслугі ў галіне праваабарончай дзейнасці.***

Пра гэта паведамілі 3 кастрычніка на прэс-канферэнцыі ў Мінску прадстаўнікі камітэту, у склад якога ўваходзяць на сёння 29 вядомых у Беларусі і за яе межамі асобаў.

З беларускага боку гэта: Жанна Літвіна (ГА «БАЖ»), Аляксандр Мілінкевіч і Алесь Лагвінец (Рух «За свабоду»), Алена Танкачова (Цэнтр прававой трансфармацыі), Андрэй Дынько («Наша Ніва»), Раіса Міхайлоўская (Цэнтр правоў чалавека), Ганна Герасімава (Беларускі Дом правоў чалавека ў Вільні), Алег Гулак (РГА «БХК») , Сяргей Мацкевіч (Асаімблея НДА), Валянцін Стэфановіч, Таццяна Равяка і Уладзімір Лабковіч (незарэгістраваны ПЦ «Вясна»), Інна Кулей (Камітэт абароны рэпрэсаваных «Салідарнасць»), Улад Вялічка (Міжнародны кансорцыум «Еўрабеларусь»), Барыс Звоскаў (Прававая ініцыятыва).

Сярод замежных сябраў камітэту Людміла Аляксеева (Маскоўская Хельсінская група), Марылуіза Бэк (сябра Бундэстага), Сухаір Белхасэн (прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека), Б'ёрн Энгесланд (генеральны сакратар Нарвежскага Хельсінкскага камітэта), Івонка Сурвіла (прэзідэнт БНР) і іншыя зназныя асобы.

«Гэты спіс не закрыты», падкрэслілі ўдзельнікі прэс-канферэнцыі.

«Вельмі хацелася б, каб вылучэнне Алеся Бяляцкага на прэмію паўплывала на яго лёс, як і на лёс усіх палітзняволеных, якія на сёння яшчэ застаюцца за кратамі. Няма ў нас большага клопату і большага болю, чым лёсы гэтых людзей», зазначыла на прэс-канферэнцыі Жанна Літвіна.

Імя сёлетняга лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру абвесцяць 14 кастрычніка. 10 снежня адбудзецца яе ўручэнне, пасля чаго да 1 лютага можна вылучаць намінантаў на прэмію 2012 года. З 1 лютага пачнецца кампанія па падтрымцы кандыдатур, якая будзе доўжыцца цэлы год аж жа самога абвяшчэння.

Між тым, справа Бяляцкага ўжо знаходзіцца ў пракуратуры. «Ён скончыў знаёміцца з матэрыяламі справы. Зараз яго справа перададзена ў пракуратуру, якая мае 5 дзён для падрыхтоўкі і перадачы матэрыялаў у суд. Мяркую, што ў другой палове кастрычніка можа пачацца судовае разбіральніцтва», паведаміў на прэс-канферэнцыі калега зняволенага, праваабаронца Валянцін Стэфановіч. Ён непакоіцца, што суд можа быць закрытым, і лічыць неабходным зрабіць усё, каб гэтага не адбылося.

<u>Прэс-служба ГА "БАЖ"</u>

## Алесь Бяляцкі ўзнагароджаны дыпломам "За мужнасць і барацьбу за свабоду"

*2 кастрычніка на ўрачыстай цырымоніі закрыцця V Міжнароднага фестывалю праваабарончых фільмаў у Бішкеку старшыня ПЦ "Вясна" і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека Алесь Бяляцкі ўзнагароджаны дыпломам "За мужнасць і барацьбу за свабоду".*

***Узнагароду праваабаронцу, які па палітычна матываваных прычынах утрымліваецца пад вартай, арганізатары фестывалю перадаюць праз сябру міжнароднага журы з Беларусі Паліну Сцепаненка.***

*У знак праваабарончай салідарнасці сёння ў кінатэатры "Манас" удзельнікам і гледачам фестывалю была прэзентавана дакументальная стужка пра асобу і дзейнасць гэтага выбітнага чалавека - "Свечка праўды Алеся Бяляцкага", сцэнарыстам якой з'яўляецца Паліна Сцепаненка.*

*V Міжнародны фестываль дакументальных фільмаў па правах чалавека "Бир Дуйно Кыргызстан" праходзіў у Бішкеку з 27 верасня па 2 кастрычніка. Арганізатарам выступіў праваабарончы цэнтр "Грамадзяне супраць карупцыі" пры падтрымцы міжнародных арганізацый. У праграме фестывалю дэманстраваліся 29 фільмаў з 16 краінаў свету па тэмах: "Герой нашага часу / Кіргізскі вобраз міру", "Улада, грамадства, закон, карупцыя", "Правы дзяцей і моладзі", "Правы чалавека ў перыяд папярэдняга заключэння пад варту", "Выратуй і захавай", "Правы жанчын".*

# Валянцін Стэфановіч: «Мне раілі не вяртацца ў Беларусь»



Пасьля амаль двух месяцаў за мяжой намесьнік старшыні праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч вярнуўся ў Беларусь. Літва перадала афіцыйнаму Менску зьвесткі пра яго банкаўскія рахункі, як і пра рахункі старшыні "Вясны" Алеся Бяляцкага, які на падставе гэтых зьвестак быў арыштаваны.

Перад прыездам у Беларусь Валянцін Стэфановіч меў размову з шэрагам дыпляматаў, якія раілі яму не вяртацца ў Беларусь, Міністар замежных спраў Літвы Аўдронюс Ажубаліс назваў гэта нерацыянальным крокам, беручы пад увагу "прынцыпы беларускай прававой сыстэмы, палітычную сытуацыю і досьвед іншых дысыдэнтаў". Паводле Ажубаліса, "давяраць прававой сыстэме Беларусі і спадзявацца на неперадузятае правасудзьдзе прынамсі наіўна".

У інтэрвію "Свабодзе" Валянцін Стэфановіч распавёў: "Ён мне тэлефанаваў асабіста. Напярэдадні я сустракаўся з прадстаўнікамі літоўскага МЗС, якія мне таксама казалі, каб я падумаў і што яны мне раяць не вяртацца. І што я магу застацца ў Літве, чарговы раз мне сказалі. Я сказаў, што маё рашэньне прынятае і я паеду дахаты. Потым учора я сустрэўся з амбасадарам ЗША ў АБСЭ, які мне сказаў тое самае. А пасьля мне патэлефанаваў міністар замежных спраў Літвы і сказаў, што яны вельмі турбуюцца за маю бясьпеку, раяць мне ня ехаць і што я магу застацца ў Літве".

Валянцін Стэфановіч патлумачыў, што рашэньне аб вяртаньні ў Беларусь прыняў даўно. Ён дзякуе дыпляматам за клопат і лічыць, што пагроза адносна яго перабольшваецца.

"Мы ўжо працуем тут 15 гадоў, і зь іх 8 гадоў "Вясна" дзейнічае без рэгістрацыі. Гэтыя пагрозы існавалі ўсе апошнія восем гадоў. Ты кожны дзень ня ведаў, што з табой будзе. Я пра гэта стараўся ня думаць і ня думаю цяпер, бо гэта ад мяне не залежыць. Я не зьбіраюся нікуды хавацца і зьбіраюся далей займацца праваабарончай дзейнасьцю. Таму я і прыехаў. Калі б я хацеў, я мог бы застацца. Не было праблемы для мяне папрасіць палітычнага прытулку ў розных краінах, у тым ліку ў Францыі, дзе я быў. Навошта, я не хацеў гэтага рабіць. Займацца праваабарончай дзейнасьцю ў Беларусі гэта заўсёды рызыка розных непрыемных гісторый, у тым ліку і магчымасьці ізаляцыі. Шмат гадоў такая сытуацыя".

Падатковая інспэкцыя Партызанскага раёну Менску пастанавіла спагнаць зь сябра праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянціна Стэфановіча 31 мільён 500 тысяч рублёў нібыта ўтоенага падатку. А таксама 6 мільёнаў рублёў пені. Падаткоўцы накіравалі ў суд Партызанскага раёну пазоў аб спагнаньні гэтых грошай у сувязі зь няплатай іх у добраахвотным парадку. Аднак пакуль нейкіх папераў ці тэлефанаваньняў, вярнуўшыся дахаты, праваабаронца не атрымліваў. Ці зьбіраецца ён выплачваць вялізны штраф, калі да гэтага дойдзе справа?

"Я пакуль пра гэта ня думаю, бо ў мяне, па-першае, няма такіх грошай. А па-другое, я буду намагацца абскарджваць па інстанцыях як мага больш. Для мяне найгоршае ў гэтай сытуацыі, што дзеля забесьпячэньня позвы, нават да разгляду судом, ёсьць падставы абмежаваць мне права на выезд. У мяне вялікія сумневы адносна таго, якое рашэньне прыме суд. Хоць у мяне ёсьць доказы, я прывёз некаторыя пісьмовыя дакумэнты адносна таго, што гэтыя грошы не пералічаліся ў якасьці майго асабістага прыбытку. Гэта дакумэнты ад фондаў, якія пералічалі грошы. І прэтэнзій зь іх боку да мяне няма. Але тым ня менш, відаць, давядзецца іх недзе шукаць. 4 тысячы эўра атрымліваецца па цяперашнім курсе".

З кастрычніка лідэры грамадзянскай супольнасьці правядуць у Менску прэс-канфэрэнцыю, прысьвечаную міжнароднай кампаніі ў абарону старшыні "Вясны", віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека Алеся Бяляцкага. Праваабаронца за кратамі працягвае знаёмства з матэрыяламі крымінальнай справы, заведзенай супраць яго нібыта за ўтойваньне падаткаў. Сябра "Вясны" Ўладзімер Лабковіч патлумачыў, ці ёсьць вынік абароны Бяляцкага за межамі Беларусі:

"Ні ў кога за межамі Беларусі няма сумневу, што гэта палітычны перасьлед, і патрабаваньне вызваліць Бяляцкага зьяўляецца першым, як і іншых палітвязьняў. І гэтае пытаньне ня будзе зьнятае з парадку дня, пакуль ня будуць вызвалены ўсе палітвязьні і Алесь Бяляцкі. За мяжой выклікаў асаблівае абурэньне арышт Бяляцкага, бо ён не палітык і пацярпеў выключна за гуманістычную дзейнасьць, як праваабаронца. І гэта выклікае вялікае абурэньне".

**Алесь Дашчынскі**

---

## Уладзімір Някляеў:

## ВЯЗНІЦА БЯЛЯЦКАГА

*25 верасня дзень народзінаў Алеся Бяляцкага. Сорак дзевяць гадоў. Паўвекавы, юбілейны год ён сустракае ў вязніцы.*
*За што?... За тое, кажа Лукашэнка, што не сплаціў падаткі. Ну, няхай...*
*Толькі ў такім разе пытанне: за што Бяляцкага затрымлівалі, арыштоўвалі, прыцягвалі да судовай адказнасці яшчэ 20 разоў?...*
*Пра гэта Лукашэнка не кажа.*

**Працяг на 3 стар.**



# Крык аб дапамозе ДА СУСВЕТНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ



*Паважанае спадарства!*

Мы звяртаемся да ўсёй прагрэсіўнай сусветнай супольнасці з крыкам аб дапамозе! З крыкам аб хуткай і канкрэтнай дапамозе па выратаванню жыцця беларускага вязня сумлення Зміцера Дашкевіча!!!

Непрызнаны светам "прэзідэнт" Беларусі і духоўна-маральны вырадак Лукашэнка працягвае беспакарана забіваць і калечыць людзей у Беларусі. Ёсць усе падставы асцерагацца таго, што ў самы бліжэйшы час (лік ідзе на дні!) Лукашэнкаў заб'е лідэра Маладога Фронту Зьмітра Дашкевіча.

Дашкевіч быў незаконна асуджаны несвабодным беларускім судом (на падставе сфабрыкаваных і хлуслівых паказанняў беларускай міліцыі) і вось ужо як 9 месяцаў Зміцер падвяргаецца розным здзекаванням і катаванням у турмах Беларусі. Зміцер вельмі моцны чалавек, але нашы асцярогі заснаваныя на апошніх лістах Дзімы, у кожным радку якога чутная маленне аб дапамозе і прадвесце цалкам рэальнай пагрозы фізічнага знішчэння…

Наша ўпэўненасць у тым, што гэта магчыма заснавана на наступным:

1. На мінулых знікненнях і забойствах ЎСІХ палітычных апанентаў лукашэнкі Захаранкі, Ганчара, Красоўскага, Завадскага, Карпенка, Бябеніна …
2. На поўнай адсутнасці і наўмысным сабатажы з боку лукашэнка і беларускіх судоў якіх-небудзь расследаванняў вышэйпаказаных злачынстваў.
3. На шматлікіх сведчаннях людзей, якія выйшлі нядаўна з беларускіх турмаў, якія сцвярджаюць аб наяўнасці ў турмах груп асоб у масках без апазнавальных знакаў, якім падпарадкоўваюцца ўсе турэмныя работнікі. Менавіта гэтыя маскі, наўпрост падпарадкоўваючыся лукашэнку, здзекуюцца і катуюць у турмах беларускіх вязняў сумлення і маюць прамое дачыненне да ўжо вядомых эскадронаў смерці, якімі кіраваў і кіруе асабіста лукашэнка.
4. На падставе нядаўніх супрацьзаконных нападаў людзей без апазнавальных знакаў на сотні мірна апладыруюць грамадзян на вуліцах і на лідэраў аб'яднаных дэмакратычных сіл 01.10.2011 г..
5. На беспрэцэдэнтных вычварэннях з боку лукашэнкі Канстытуцыі РБ, усіх правоў чалавека і нормаў маралі і маральнасці ў Беларусі, якія па сваёй сутнасці параўнальныя з нацызмам-фашызмам і сталінізмам.

Для разумення Вамі ўсяго трагізму сітуацыі ў Беларусі мы размяшчаем ў адкрытым доступе арыгінал апошняга ліста Змітра Дашкевіча і яго пераклады на ангельскую й расейскую мовы. Хто можа, перакладаеце ліст Змітра і наш зварот на іншыя мовы свету і распаўсюджвайце.

Нельга верыць лукашэнку ..., лукашэнка разумее ТОЛЬКІ мову сілы! Таму мы просім усіх прагрэсіўных і вядомых людзей дапамагчы нам і неадкладна прыняць усе магчымыя меры, і назаўсёды спыніць адраджэнне фашызму на беларускай зямлі ў асобе дыктатара лукашэнкі!

**Выратуем Дашкевіча! Выратуем Беларусь! І хай дапаможа ўсім нам Гасподзь Бог!**

## "ВЯСНА" ПАТРАБУЕ спыніць супрацьпраўныя дзеянні ў адносінах да Андрэя Саннікава і Змітра Дашкевіча

**Праваабарончы цэнтр "Вясна" выказвае занепакоенасць пераводамі палітзняволеных Андрэя Саннікава і Змітра Дашкевіча.**

21 верасня 2011 г. Ірына Халіп, жонка экс-кандыдата на пасаду прэзідэнта Андрэя Саннікава, даведалася з тэлеграмы аб тэрміновым пераводзе мужа з калоніі ў г. Наваполацку ў Бабруйскую калонію №2, а 23 верасня 2011 г. у Дэпартаменце выканання пакаранняў ёй паведамілі, што зараз ён яшчэ не прыехаў у новы пункт прызначэння.

19 верасня 2011 г. з Горацкай калоніі быў вывезены кіраўнік Маладога Фронту Зміцер Дашкевіч, якога па незразумелых прычынах перавялі ў Магілёўскі ізалятар, а адтуль праз некалькі дзён вывезлі ў невядомым накірунку. Ніякай афіцыйнай інфармацыі пра маршрут перамяшчэння, а таксама пра падставы такіх дзеянняў не паведамлялі ні родным, ні адвакату Змітра. На дадзены момант адсутнічае афіцыйная інфармацыя пра месца яго знаходжання, што з'яўляецца грубым парушэннем.

Працэс перавозу зняволеных выклікае ў іх фізічныя і псіхалагічныя пакуты.

**Працяг на 4 стар.**

---

*Дык я скажу. За тое самае, за што Бяляцкі ў турме й цяпер. За любоў да Беларусі. Чыстую. Самаадданую. Тую, якая вывела людзей на Плошчу. Такую, якая й не снілася тым, хто сёння разам з нячыстай сілай правіць баль на нашай зямлі. Хто абабраў Айчыну, давёў яе да жабрацтва, хто махлюе, крадзе і насамрэч не плаціць падаткі. Хто жыве ў палацы ў Драздах і тыкае пальцам на хату Бяляцкага ў Ракаве. У чалавека ў паўвека не можа быць сваёй хаты? Тады што ў яго можа быць?... Толькі тое, што ў карыта кінуць?... Я ведаю Алеся Бяляцкага яшчэ з часоў ягонага студэнцтва. З часоў маладзёвага аб'яднання "Талака" і літаратурнага таварыства "Тутэйшыя". Не было ў яго ні грошай, ні кута, дзе жыць, але ўсё адно былі праблемы з уладай, якая сабакам з ланцуга кідалася на ўсё сапраўды беларускае. Улада тая (у тыя часы савецкая) у Беларусі закансервавалася і ў савецкасці сваёй (як і ў сваёй сабачнасці) не змянілася й сёння. Што ж: перажыўшы лета гарачае, пераажывём і… Усё пераажывём! І выйдуць з вязніцаў і Бяляцкі, і Саннікаў, і Статкевіч, і ўсе, хто кінуты за краты за сапраўдную любоў да сапраўднай Беларусі. Мацуйся, дружа мой Алесь! Шлях не дарэшты пройдзены... Цябе сягоння свет увесь Віншуе з днём народзінаў!*

# Гомель:
# Ініцыятараў Народнага сходу пераследуюць, запалохваюць, арыштоўваюць

Яшчэ падчас збору подпісаў на вуліцы Юбілейнай супрацоўнікі Чыгуначнага райаддзелу міліцыі сталі затрымліваць грамадзкіх актывістаў.

29-гадовы Ільля Міронаў: «Зьбіраў подпісы за Народны сход. Нас затрымалі 5 верасьня, як сказалі, для ўдакладненьня пашпартных зьвестак. Затрымалі й адвезьлі ў аддзяленьне міліцыі й трымалі пару гадзінаў. Іх больш цікавіла, ці маем мы дачыненьне да якіх-кольвечы партыяў і аб'яднаньняў, навошта мы ходзім, хто будзе на сходзе.

З распараджэньня начальніка аддзелу грамадзкага парадку Чыгуначнага РАУСу маёра Аляксандра Кошмана міліцыянты скапіявалі сабраныя подпісы жыхароў, заявіўшы, што будуць тэлефанаваць людзям і пытацца, ці карэктна паводзілі сябе зборшчыкі подпісаў.

Праз колькі дзён участковы Юры Козел запрасіў зборшчыцу подпісаў Ксеню Яраслаўцаву нібыта на размову. Аказалася для вярбоўкі ў сакрэтныя інфарматары.

Яраслаўцава: «Участковы выклікаў для гутаркі. Прыходжу я да іх, а там яшчэ сядзіць дзядзька ў цывільным. Міліцыянты сказалі пакінуць рэчы й ісьці ў кабінет Кошмана з гэтым дзядзькам. І там ён пачаў прапаноўваць супрацоўніцтва: каб я дакладала, што ў нас адбываецца, якія мерапрыемствы будуць і гэтак далей. Ён ставіў пад пагрозу маю будучыню й майго дзіцяці. З гадзіну ён спрабаваў мяне ўгаварыць, але я, канечне, адмовілася».

Двое невядомых у цывільным спынілі ля пад'езду дому й зборшыка подпісаў Віталя Пратасевіча. Адзін зь іх папярэдзіў:

«Пастой і паслухай моўчкі. Вось гэтыя ўлёткі прыраўноўваюцца зараз да ўздыму народу на бунт. І подпісы ты зьбіраеш? Кажу: так, зьбіраю, маю права артыкул 37 Канстытуцыі. Гаворыць: у цябе дзевяціпавярхоўка на два пад'езды. У кожным пад'езьдзе знойдзецца 3-4 чалавекі, якія напішуць, нават калі ты не заходзіў да іх дамоў, што ты заходзіў, і ў іх прапалі рэчы: тэлефон, грошы. Кажуць мне: думай сам. Павярнуліся і пайшлі».

20 верасьня на вуліцы Юбілейнай грамадзкія актывісты Андрусь Цянюта й Васіль Такарэнка раздавалі мінакам запрашэньні на Народны сход, які мае адбыцца 8 кастрычніка ля ДК «Віпра». Міліцыянты затрымалі іх, забралі інфармацыйныя матэрыялы, склалі пратаколы й адвезьлі ў ізалятар, а 21 верасьня даставілі ў суд.

Судзьдзя Чыгуначнага раёну Ільля Сьвірыдаў пакараў Цянюту адміністрацыйным арыштам на 10 сутак, а Такарэнку 350-тысячным штрафам. Гэта першы судовы прэцэдэнт, калі Народны сход міліцыя й суд прыраўнялі да несанкцыянаванай масавай акцыі.

Такарэнка: «Мы нічога кепскага не рабілі. Улады ня хочуць, каб грамадзтва ведала пра Народны сход 8 кастрычніка. Цалкам відавочна, што гэта было мэтанакіраванае затрыманьне й мэтанакіраваны прысуд, каб запужаць трохі напярэдадні Народнага сходу».

Варта дадаць, што 22 верасьня нібыта за лаянку й супраціў міліцыі быў пакараны ў Цэнтральным судзе 15-суткавым арыштам сябра гарадзкога аргкамітэту за правядзеньне Народнага сходу Кастусь Жукоўскі. Спэцназаўцы нібыта хацелі ўручыць актывісту позву ў Чыгуначны РАУС да маёра Кошмана для высьвятленьня таго, чаму тэлефон Кастуся пазначаны ў інфармацыйных лістках пра Народны сход.

**Радыё Свабода**



## ВЯСНА праваабарончы цэнтр патрабуе спыніць супрацьпраўныя дзеянні ў адносінах да Андрэя Саннікава і Змітра Дашкевіча

Пачатак на 3 стар. Таму беспадстаўнае ажыццяўленне такіх дзеянняў расцэньваецца намі як катаванне. Да таго ж, падчас этапавання забаронена перадача ім рэчаў і ежы, што, на фоне змены тэмпературнага рэжыму, выклікае занепакоенасць здароўем вязняў. У гэты перыяд таксама блакуецца права на абарону і сустрэчу з адвакатам. Адсутнасць інфармацыі пра іх месцазнаходжанне расцэньваецца як бесчалавечнае абыходжанне, як з самімі палітвязнямі, так і з іх роднымі.

У сваю чаргу Праваабарончы цэнтр “Вясна” канстатуе, што ўлады Беларусі ў розных формах сістэматычна ўжываюць катаванні ў дачыненні да палітычных вязняў. Такая практыка павінна быць неадкладна спынена, а вінаватыя павінны панесці адказнасць згодна з заканадаўствам.

Праваабарончы цэнтр “Вясна” патрабуе:

1. Спынення супрацьпраўных дзеянняў з боку органаў выканання пакарання, а менавіта прадастаўлення інфармацыі родным і адвакатам пра месцазнаходжанне Андрэя Саннікава і Змітра Дашкевіча;
2. Прадастаўлення зняволеным Андрэю Саннікаву і Змітру Дашкевічу магчымасці сустрэцца са сваімі адвакатамі.
3. Неадкладнага вызвалення ўсіх палітычных вязняў.

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.